**Таццяна Будовіч**

# Дуэль паглядаў

*Вершы*

Мінск
Беларускі кнігазбор
2002

Будовіч Т.
Дуэль паглядаў: Вершы / Т. Будовіч.
Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 2002. – 92 с.
ISBN 985-6638-52-6.

Вершы Таццяны Будовіч паэтычныя і філасафічныя, у іх нярэдка гучыць голас сур’ёзнага перажывання і разумення сутнасці жыцця.

*Маёй школьнай настаўніцы*
*беларускай мовы і літаратуры*
*Галавіной Але Іванаўне з вялікай*
*удзячнасцю прысвячаю*

*я ўсё гэтак жа ўпарта не веру*
*што п а ў с ю л ь пяшчоце й даверу*
*панаставіў розум б а р' е р а ў*
*як тут між людзей у нас*
*Г. Дубянецкая*

* * *

*Э.С.*

душа дакранаецца да душы
любіш каго скажы?
маці маю зямлю
люблю
то ўзаемна

## ЗМЯРКАННЕ

Як сонца ружай залатой
У Ваш хаваецца пакой,
Мне б стаць пялёсткам ружы той,

І страху мне б не адчуваць
У гэты час – мой час згасаць

* * *

Убачыць мне б толькі Вас,
І ўсе мае страты сталі б
Не вартымі нават жалю.
Убачыць мне б толькі Вас –

І Вам не сказаць нічога
Паглядам, з тых, што маўчаць.
А трэба сказаць так многа.
А хочацца так сказаць!

* * *

Цвіце па завеях снег,
І квецень яго не знае,
Як пераадолець мне
Спакусу сустрэчы з Вамі.

І безабароннасць воч –
Як выклік. Дуэль пагляdаў…
На снег я гляджу ў вакно.
Ізноў прадчуваю радасць.

* * *

Свой *пэндзлік* чароўны вазьміце,
мастак.
Той свет намалюйце, дзе зараз
вясна.
Дзе квецень каштанаў прылашчыць
*свяжак*.
Адчуе каштан: на зямлі рай –
не зман.
Жыве там з мянушкаю дзіўнай
звярок.
Назвалі яго ці не Вы Нармалёк?

…А свет той так блізка –
праз дзверы ў сцяне.
Праз дзверы ў сцяне, што я ўбачыла
ў сне.

## АДЗІНОТА

Матор вуркоча.
Ламаюцца аб шкло і паміраюць
снянжынкі.
І свет ляціць насустрач
усё хутчэй,
Ды гарызонт
не набліжаецца...

* * *

Вечар надыдзе, і кожны
              ўжо мае планы,
Як загойваць свае
              душэўныя раны.

На свой густ, на свой лад
Кожны творыць абрад.

* * *

Ноч. Каляды. Цень трывожны.
Кліча поўня варажыць.
Не спяшайся, падарожны,
Як завуць цябе, скажы.

Параўнаўся ты са мною.
У вачах – халодны смех.
Што за дзіва? За табою –
Некрануты роўны снег...

* * *

Той свет за белымі дзвярыма:
Дзівосны дом у зеляніне
І кветках патанае сініх.
...Той свет за белымі дзвярыма,
Дзен мы з табою – два манахі –
Баронім жыхароў ад страху
быць адзінокімі.
...Я дзверы
Ў той свет малюю на паперы.
І кветкі сінія з травою.
І двух манахаў – нас з табою.

ВАЯР

I

Мы ўварваліся ў наш
            аблажаны горад.
Чорны як смоль
            мой конь,
                і зброя мая,
                    і я –
Адно цэлае.

Мне не страшна,
Бо страх мой,
Як і палову майго войска,
Забілі заваёўнікі.

II

Няма сіл
            пакідаць сваіх параненых
                на полі бітвы
І няма сіл
            несці іх
                у наша заўтра…

III

Адна я даглядаю сына.
Адну сябе павінна я любіць,
            каб не было балюча зноў:
Яшчэ дзіця, а бараніць імкнецца
                штосьці,
Зусім як бацька – з дзідай у руцэ
            свабоду бараніў…

* * *

Як і раней, нас пахаваюць,
Падумаўшы, што мы памерлі.
Зямлёю змерзлай закідаюць,
Каб да адлігі мы не мерзлі.
А нам з табой таго і трэба.
Для нас з табой – не гэта неба.
Пад ім не спыняцца арэлі,
Што з ніцяў срэбнай павуціны
Пляце для нас павук вялізны.

...Усё – нібыта мы памерлі.
Усё – нібыта мы не разам.
І Бог прадвызначыў паразу
Тваёй дружыне. І не злезе
Крывавы снег з зямлі. На снезе
Крывавым – быццам бы не зброя
Тваіх неператожных вояў...

* * *

…Бясконцасць шашы.
Намотваецца ўсё хутчэй
Дарога на колы…

* * *

Я пад белым халодным небам
Белым-белым халодным снегам
Прачынаюся, каб убачыць,
Прачынаюся, каб адзначыць:

У цябе сёння сілы болей.
Сілы хопіць табе, каб здолець
Палюбіць гэты холад неба.
Белы снег на халоднай глебе.

* * *

Ты маеш час прыйсці.
Травою прарасці
між пліт.

І размаўляць са мной.
Тут ціша і спакой.
Граніт

плюшч апавіў з тугой.
І неба над зямлёй –
блакіт.

Прыйдзі, каханы мой.
Паразмаўляй са мной.

* * *

Як заўтра прыйдзе дзень,
скалелая зямля
сагрэецца
пад сонцам.
А зараз тут
начуе вечны холад.
І вырываць сябе
так цяжка з гнуткіх рук яго.
Яшчэ цяжэй – ізноў у іх
вяртацца.

* * *

Начны нядрэмны мой
канвой

ланцуг твой не парваць
не зняць
і я
твая

дай мне зрабіць хоць крок
убок
знарок
у змрок

загінеш змрок накрыў
абрыў

і чорная трава
як твань
на ім
пад ім

у сэрцы прарасце
ўрасце

тут выйсця не знайсці
ісці

ісці ўвесь час здалёк
скрозь змрок

* * *

Зімовай вяргіні квецень
На змерзлым тваім акне.
Як хочацца – да вар’яцтва –
Стаць гэтай вяргіняй мне…

Пагляд ты б не змог адвесці
Ад кветкі акна твайго.
Яна прырасла б навекі
Пялёсткамі да яго.

* * *

Там, дзе вецер па дахах ходзіць,
Холад снегу ўначы трывожыць,

Часам можна пачуць не словы –
Грукат зброі начной аховы.

Грукат зброі ў цагляных нішах
Пад аблокамі, што калыша

Вецер. Чуюцца там не словы –
Грукат зброі начной аховы.

* * *

Холадна ценям на змерзлым снезе.
Цені – таксама дрэвы.
Таксама і я, і ты.
Вечнаму холаду на зямлі
Больш, чым адно аднаму, належым.

## ЗІМОВЫ ВЕЧАР

...А галін сувой угары,
Абдымаючы ліхтары,
Хоча засціць усё сабой:
Неба з поўняю залатой.

І здаецца, што дагары,
А не зверху ўніз, снег ідзе.
Растае ён у чарнаце,
Абмінаючы ліхтары.

* * *

у горадзе шматлюдным ажываюць
рэаліі самоты і штурхаюць
на розныя вар’яцкія учынкі
на пошукі прыгодаў без спачынку...

* * *

у пошуках новых пачуццяў
мы вынайдзем дзейсныя сродкі
як не адчуваць гэтак востра
душэўнай сваёй адзіноты

* * *

Спявай мне песні пра
Каханне
*З песні*

Нешта ў тваёй душы
Выйсця шукае зноў.
Чорная хлыне кроў
Проста з тваёй душы.
Ты захлынешся ў ёй,
Чорнай крыві сваёй.

* * *

*М.*

Так проста
　　　　быць
нашмат старэйшым за мяне
　　　　па ўзросту.
І, як дачку сваю, любіць.

…Не быць старэйшай за цябе
На нізку вершаў пра цябе
　　　　яшчэ прасцей.

Але за ўсё прасцей
З табой быць роўнай: без надзей,
　　　　што так не назаўжды,
Аднолькава балюча вецер
Ламаў галіны б нашы ў свеце,
Дзе дрэвамі былі б з табой
Паміж халодным небам і зямлёй…

* * *

Шукае хатку чмель
у скошанай траве.
А ты, мой адзінокі воўк, –
сваю Неўрыду.
І я адчуць сябе баюся,
як воі скіфа Арыята,
Разбітым заваёўнікам
тваёй Неўрыды.

* * *

Цягне холадам
з прачыненага вакна.
Кактус у прахалоду
іголкі выпрастаў.
А мы яшчэ крыху пасядзім,
не запальваючы святла, –
Хай цемра ў пакой
пакрысе запаўзае, –
Дамовімся, як пазнаць
адно аднаго ў наступным
жыцці.

* * *

*М.*

*Існуе павер'е, што калі закаханыя*
*сустрэнуць уначы прывід Барбары*
*Радзівіл у радзівілаўскім парку,*
*то ім пашчасціць у каханні.*

О, як хацелі мы ў Нясвіжскім парку
Сустрэць прывід Барбары Радзівіл,
Каб на каханне нас дабраславіў.
Блукалі зорнай ноччу аж да ранку.

Дарэмна мы кармілі камароў,
Што вельмі ўпадабалі нашу кроў.
Так, пошукі кахання прывялі
Да страты неабачлівай крыві.

## МАЕ ВАР'ЯЦКІЯ СНЫ

Мы будзем падаць. Ты ж адчуеш, як
            усё хутчэй
                    ляціць зямля насустрач.
І як калоцяцца шалёна сэрцы
ў апошні міг
І целы
            ў запозненым раскаянні
                    зайздросцяць птушкам,
Пакуль не абарвецца штосьці
                    ў грудзях.

БЛАЗАН

Я сонца нажом забіў,
Завостраным мной старанна.
Забітае сонца ўпала
Далёка за край зямлі
І кроў на спіну сцякала
Аблокам, што там плылі.

...З-за краю зямлі насупраць
Яшчэ адно сонца ўстала
На раніцу днём наступным.

* * *

Скрозь ночы няспраўджаных сноў
Па кроплі, па кроплі – і ў бессань.
Ад рэха нясказаных слоў
Маё ратаванне – ты, бездань.

Цябе выракаюся зноў,
Спазнаўшы тваю невымернасць.
Мне б вестку з тваіх берагоў,
Уцеха мая – безнадзейнасць.

Жывая я ўсмешкай тваёй,
Тваім неадменным "загінуць".
Дык будзь жа дарэшты маёй,
Не дай твой палон мне пакінуць.

* * *

моцнадзейны надзіва наркотык
нібы кожнаю жылкай спіны
адчуваеш вачэй Яго дотык
табе зноў не ўсё роўна зірні

і сляпымі пазнала б вачыма
Яго вочы і зноў немагчыма

не адзначыць: святлейшы за ўсіх
і на момант здаецца: заціх

з табой разам сусвет і ляціць
у бяздонне: знайсці каб згубіць

## НА МІТЫНГУ

Стаяць і ляскаюць менты
Гумовай зброяй аб шчыты,
Каб заглушыць зубоў іх стук
І каб схаваць дрыготку рук,
Каб запалохаць нас з табой.
Ну што, спужаўся, сябра мой?

## ХАТНЯЯ ІДЫЛІЯ
*(Наследаванне Бродскаму)*

Ідзе чацвер. Дэпрэсіі няма.
Яна была, ды выйшла ўся дарэшты.
А за вакном маім – зіма, зіма…
І ля вакна, на ложку, муж. Ён нешта

На белай столі ўгледзеў і глядзіць
З гадзіну, мусіць, не міргнуўшы вокам.
Накормлены, вуркоча кот пад бокам
Пра тое, як яму цудоўна жыць.

* * *

Заўтра ты атруціш блазна,
Што жыве ў душы маёй.
Каб дарэшты стаць тваёй,
Мушу я пазбыцца блазна.

…Не! Мне блазан даражэй.

* * *

...Змяюкай выпаўзае
               і растае ў паветры
                         дым.
Як ты мне падабаешся,--
                         гульня з агнём!

* * *

Стратэгія паводзінаў – гульня.
Прадуманая тактыка – без хібаў.

...Навобмацак знайсці
ў душы праціўніка
крывавыя рубцы,
Не выдаўшы свае
нервовым рухам.

* * *

У мяне ёсць мільёны
Самых розных імёнаў.

І яшчэ шмат чаго
Маю я для таго,

Каб не быць чужаніцай
І быць ёй не стаміцца.

* * *

У пошуках новай радзімы
Мы страцілі нашыя душы.
Калі ж пажадалі вярнуцца,
Дарога адрынула нас.

## НАЧНАЯ ДАРОГА

Колькі зловіць яшчэ
Казюрак, начных матылёў
маё ветравое шкло?

Ці не абарвецца
апошні мой сон,
Як іхні –
так недарэчна.

* * *

вецер гоніць аблокі
далёка
за самы край

і нічога не трэба
а неба
і край – не край

і не мары аб шчасці:
упасці
туды, дзе рай

* * *

Высока ў небе
Змагаецца з ветрам птушка.

Не шкада і паловы жыцця.
За гэткія крылы.

* * *

Толькі б утрымацца
Там, дзе я другая.
Там, дзе не хапае
Ветру, каб сарвацца.

Дзе ўспаміны плачуць
Летнімі дажджамі.
Дзе ніхто не ўбачыць,
Што я – нежывая.

Ды прыкуты к сэрцу
Камень ланцугамі.
Цягне ўніз. Не здзерці
Мёртвымі рукамі.

* * *

да цябе ўсе шляхі да цябе
гладыятар разлітая кроў
над арэнай раз’юшаны роў
выбачай што ты не ў барацьбе
пераможца багі для сябе
абіраюць найлепшых прысуд
іх суровы пад спёкаю бруд
набрыняе засмяглы крывёй
улагодзіць плебейскі настрой

* * *

*Дзядулю*

Холад дажджу трывожыць
Холад рук і распяцця.
Тут, дзе шукаў ты шчасця,
Холад дажджу не зможа
Стаць для рук невыносным
Зноў, як заўсёды ўвосень.

Так, як заўсёды ўвосень...

* * *

Ты не прачнешся, калі
Ў снезе сагрэецца поле.
На халоднай зямлі
Снегу ўсё болей і болей.
Ты не прачнешся ніколі.

Снег сагрэе твае сны.
Сны
Пра гуканне вясны.

* * *

Чырвонае золата ў лужынах –
святло ліхтароў.
Ты золата ззяннем спакушаны
ў абдымках вятроў.

Пад голлем пад чорным не золата –
святло ліхтароў.
Спакуса начнога вандроўніка –
вярнуцца дамоў.

* * *

Вуглі дагараюць.
Сядай пагрэць рукі.
Глядзець моўчкі ў цемру
між дрэў,
Куды знік на час пераможаны
холад.

* * *

Праз цёмнае поле
іду на святло вакна,
і мне ўсё адно –
сваё яно
ці чужое.

*В. Слінко*

Каля агню
Матыль начны
Прымроіць сны
Пра дабрыню.

...Хутчэй прабіць
Сцяну са шкла –
І да святла –
І апаліць
Начны адчай,
Ці разам з ім –
Халодным, злым,
Загінуць – хай...

Святло ў вакне.
І ўсё адно,
Каму яно
Гарыць. Не мне...

* * *

О, як тут холадна! А ты
Цалуеш гэты снег, сляды.
І я малю цябе ў душы:
Устань з каленяў і хадзем,
Хадзем туды, дзе гул машын
Гучней адчаю ў словах, дзе
Не заціскаюць берагі
Вады скалелыя кругі.
Ды ты ўсё молішся вадзе,
І вецер стукае ў спіну:
Глядзі, а бездань побач.
Ну?!

* * *

адсюль
дзе вада паўсюль

туды
дзе няма вады
змагацца са смагай ты

ідзеш я хачу з табой
знясілены мой герой

не сілу табе аддаць
не рэшту тваёй – узяць

засведчыць сабе ізноў
засведчыць мільён разоў

ёсць *Нехта* жывы як ты
ёсць *Нехта* але не ты

больш існы за нас з табой
знясілены мой герой

* * *

*В.*

*– Як бы ты хацела памерці?*

Я хацела б памерці ў сне,
Каб сабачка мой сніўся мне –
дурнаваты эрдэльтэр’ер.

Ён бы лётаў вакол мяне
(Быў ахвочы заўжды раней
Лапы выпрастаць хатні звер).

І не ўцяміла б я тады,
Што наяве мне ўжо кранты.

ТЭЛЕФОННАЯ РАЗМОВА

*В.*

Ало, мой даўні сябра!
Голас твой пазнала.
Рада цябе чуць.
Як жыццё ў мяне, пытаешся?
Не горшым, хаця й не лепшым чынам.
...Сястра мая святкуе дзень народзінаў.
Дзякуй, віншаванні перадам
ад “даўняга знаёмага”.
Пытаешся, што новага яшчэ?
Ледзь у аварыю не трапіла нядаўна –
На хуткасці вялікай выбухнула кола.
Што? Нагадваеш пра асцярожнасць?
Добра. Так хутка ездзіць больш не буду.
(Наўрад ці ў гэта ты паверыш.)
Пытаешся, як вершы?
Больш дасканалыя, чым я.
(Але недасканалыя зусім).
А што ў цябе? Сын вучыцца хадзіць?
Я шчыра рада, што знайшоў ты шчасце.
Як бачыш, перспектыва “ад сонца прыкурыць”
Усё рэальней, і да яе
Ідзем мы
Рознымі шляхамі.

* * *

*Ю.*

Гастранамічныя прыгоды,
Хвасты крэветак на дваіх…
За памяць доўгую пра іх
мы п’ем віно.
– А з такой нагоды
Давайце піць на брудэршафт!
– А ці ўтрымае вас ландшафт?

* * *

Цела ценю – не я,
То асфальт ці зямля.

Ён прырос да дарог,
Да дрыготкіх спляценняў
Іншых вулічных ценяў
Пад ударамі ног
І пад цяжарам колаў
На асфальтаваным моры.

У святле ліхтароў
З ценю сочыцца кроў.

* * *

А толькі мне няма куды ісці,
І ўжо даўно няма куды ісці –
там
нехта ёсць,
і я яго баюся…
*Т. Сапач*

Маёй не спытаўшы згоды,
Ці ў радасці я, ці ў скрусе,
На ветры *Твaім* халодным
Ты танчыць мяне прымусіў.

Няспынна за мной *Ты* сочыш,
Я танчу і ўдзень, і ўночы.
Да рытму зусім няўважна,
Надзіва бяздарна танчу.

…Пакуль што *Табе* не важна,
Бяздарна, ці не, я танчу.

* * *

Я
не хачу болей жыць
*тут*,
Але гэта –
мной збудаваны дом
без дзвярэй.

## НА САМЫМ ВЫСОКІМ ДАХУ

Як хораша глядзець уніз
Адсюль, з халоднай вышыні,
І чуць бязмоўны голас твой,
Зямля пад скошанай травой.

...І стану я, зямля, табой,
Каб холад піць тваіх дажджоў
Паміж спляценняў каранёў
Травы жывой і нежывой.

* * *

Месяц бачны ўжо
малады.
Дзічкі-яблыні
бегагам
цені блытаюць
шэрыя.
Цягне холадам
ад вады,
І вільготныя
чараты
Калахаюцца
па-над ёй.
Хвалі дрогкія
холад свой
Да таго нясуць,
хто на іх
Так глядзіць, каб не
бачыць і
Не тапельцам хто
марыў стаць.

…Так спакойна
яны стаяць,
Дзічкі-яблыні,
берагам
Цені блытаюць
шэрыя.

* * *

Човен дрыготкі. Кругі па вадзе.
Восень. Так холадна.
– Бераг твой дзе?
– Бераг? Не трэба. Знаць толькі б што ты
Вецер папросіш не скоўваць вады.

Вецер прылашчыць сінечу вады.
Толькі б ты, човен, хоць дзе-небудзь быў.
Не па другі бок, за тонкай мяжой,
Той, што раздзеліць нябёсы з вадой.

...Холадна. Стыне сінеча ракі.
Сінія жылкі дрыготкай рукі.

## ВОСЕНЬ

Выхопліваюць з цемры ліхтары
Кавалкі стылага асфальту,
дзе памірае лісце,
Прымаючы апошнюю пяшчоту
Ад мяккіх лапката,
Што ў ноч крадзецца
па сваіх
кацiных справах.

* * *

Восеньская ноч
Стукаецца ў вакно
Дажджом –
Няма з кім
Раздзяліць холад…

* * *

Стыне прыдарожная трава
　　　　　ў халодным ветры.
І стынуць крокі.
І кожны з іх далей, чым папярэдні
　　　　　　　　ад мэты:
Знайсці Цябе.

* * *

памылка за памылкаю дарма
шукаеш тое ты чаго няма
ні выйсця ні спакою ні змірэння
замкнёнасць кола ці адчай падзення

* * *

Прывітанне, *нармалёк*!
Шчасця зманлівы краёк
Прыгадаю без тугі
Ў час асенняе смугі.
Ці то жартам, ці ўсур'ёз
Знічкі падаюць з бяроз.
І здаецца, мабыць, мне,
Што ў расталым тумане
Ўсё ж чагосьці не стае.
Мары грэшныя мае
Мяне клічуць у вясну,
Быццам я яе вярну.

…Ах, якая неба сінь
Паміж золата галін!
Слаўны выдаўся дзянёк.
Прывітанне, *нармалёк*!

* * *

Пад лісцем залатым зямля –
мінулае…

Цябе здалёк пабачыць…
Маруднаю хадою чалавека,
які – не *тут*,
ты
набліжаешся…

…Рэальнасць сну
не пакідае часу
Цябе пра небяспеку папярэдзіць,
якой ты не чакаеш,
і падказаць, каму з “сяброў”
не варта давяраць,
Хто, зайздрасць у душы стаіўшы,
чакае моманту,
калі сарвешся.

* * *

Як хачу я мецъ
Жыццяў шмат яшчэ,
Каб у кожным з іх –
Па тваёй слязе,
Залаты Цялец,
Абярог не мой.

І ўсё ж Бог з табой
І хвала табе,
Залаты Цялец
З залатой слязой…

* * *

Ты прыйшоў і сышоў.
Толькі далонь *памятае* малюнак
ліній
тваёй далоні,
працягнутай для развітання.
Ты назаўсёды застаўся...

* * *

Адно толькі я хачу –
патанчыць з табой.
Вальс, блюз, дыска –
Што заўгодна, на твой выбар.
На паркеце паміж люстэрак пакінуць
мною створаны *ідэал*, –
Хай шукае сабе дасканаласць...

* * *

караблі адплываюць далёка туды
дзе ў нізінах купаюцца ў сонцы сады

дзе аблокі хаваюць ад воч мінакоў
непрыступных вышыняў сляпучасць снягоў

толькі я застаюся глядзець у вакно
невыносна сціскаецца сэрца яно

прадчувае што болей не ўбачыцца нам
ці застацца ці згінуць ім суджана там

калі сэрца прадбачыць бяду сапраўды
то няхай бы расталіся мы назаўжды

не таму што вярнуцца не суджана ім
а таму што мяне не застануць жывым

## АПОШНЯЯ ВОСЕНЬ, альбо МАНАЛОГ БЛАЗНА

Восень даўно ўжо. Цяжкія аблокі
Цягнуць з зямлі жыццядайныя сокі.

Краты галін адгароджваюць свет,
Той, дзе губляецца сноў маіх след.

Тут – адзінота, хвароба і золь.
Цісне да ложка бязлітасны боль.

Ах, як шкада, што вяртання няма
Ў дні, калі быў каралём я. Дарма

Не развітаўся з жыццём я тады:
Ў россквіце славы і сіл, маладым.

Шмат меў багацця, яшчэ больш сяброў.
Толькі цяпер знікла ўсё без слядоў.

Цяжка апошнія дні дажываць,
Цела ад смерці пад коўдрай хаваць.

…Ведае нізкае неба: *я ж ы ў*.
Дождж адбівае па шыбах матыў:

Супраціўляцца без сэнсу і сілы –
Быць утаптаным у пашчу магілы…

* * *

Тут пахне скошанай травой,
Бліскучая лістота –
Нібы пасля дажджу.
Глядзіцца дрэва лісцем у ваду.
Па іншы бок яе паверхні
Таксама неба і аблокі.
Там, як і тут, напэўна,
Пахне скошанай травой.

* * *

Я хацела б быць
                    тваёй сястрой.
Нагадваць пра асцярожнасць
І кранаць мяккія валасы,
                    калі ты сыходзіш,
І паіць жыццядайным сокам,
што аднаўляе страчаныя сілы,
                    калі вяртаешся.

* * *

Мы ўсе спяшаемся, ідзем
у незваротнасць.
І кожны з нас нясе ў сабе
Смешнае сваё
*каханне*.

* * *

тут новая трава ізноў
пад новым покрывам снягоў
сплятае ніці каранёў:

сагрэцца...

* * *

у дрыготкім паветры Вільні
у прадоннай нябеснай сіні
смутак мой
супакой
і адчай паглынае душы
і слязьмі неадольна душыць
мой адчай
не карай
зграі скончылі паляванне
толькі позірк на развітанне
позірк твой
ты са мной
хай балююць да часу зграі
мы сустрэнемся ў іншым краі

**ЗМЕСТ**